АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ
ІНФЕКЦЫІ НЕ ВЕДАЮЦЬ МЕЖАЎ 2 стар.
УРАЖАННІ
ФЭСТ СЯРЭДНЕВЯКОВАЙ КУЛЬТУРЫ "НАВАГРУДАК 2000" 3 стар.
ПРАДСТАЎЛЯЕ "LA SANDR"
МАСТАК Барыс НЯПОМНЯШЧЫ 4 стар.



ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ
ЛЯСНАЯ ПАЛОННІЦА 2 стар.
З АСАБІСТАГА АРХІВА Усевалада ІГНАТОЎСКАГА 4—5 стар.
НАТАТКІ ДАСЛЕДЧЫКА
Алесь БАРКОЎСКІ. ЛЁСЫ 6 стар.



ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ПОШТЫ. ЛІДА 5 стар.
ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ. БЕЛЬГІЯ
З УСПАМІНАЎ Янкі ЖУЧКІ 6 стар.
ЛІТАРАТУРНЫЯ ЧЫТАННІ
Алег МІНКІН. "ПРАЎДЗІВАЯ ГІСТОРЫЯ КРАІНЫ ХЛУДАЎ" 7 стар.

АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

26 ліпеня 2000 года
Цана 85 рублёў

№ 30 (2692)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

ВЫДАТНАЯ КАМАНДА!



БелТА.

## УСІМ КЛАСАМ – У ВАЕННУЮ АКАДЭМІЮ

● Сяргей ХАЛАДЗІЛІН.

У чэрвені закончыліся выпускныя экзамены ў сярэдніх школах Беларусі. Перад тысячамі юнакоў і дзяўчат паўстала пытанне: што далей? Звычайна адказ на яго кожны шукае самастойна.

Але выпускнікі 11 "А" класа гомельскай школы № 15 прынялі, так бы мовіць, калегіяльнае рашэнне: усе — у Ваенную акадэмію. 11 "А" быў класам з паглыбленым вывучэннем ваеннай справы, а таму з дазволу міністра абароны ў поўным складзе на чале са сваім кіраўніком падпалкоўнікам у адстаўцы, артылерыстам Юрыем Калязнікавым прыбыў для здачы ўступных экзаменаў і паспяхова вытрымаў іх.

НА ЗДЫМКУ: 11 "А" ў поўным складзе прадоўжыць навучанне ў Ваеннай акадэміі.

САЦЫЯЛЬНЫ РАКУРС

## ЯК І РАНЕЙ, БЕСПРАЦОЎЕ НА БЕЛАРУСІ МАЕ ЖАНОЧЫ ТВАР

**Агульная дынаміка працэсаў, што сёння адбываюцца на беларускім рынку працы, характарызуецца павелічэннем колькасці занятых у народнай гаспадарцы, ростам і паляпшэннем кан'юнктуры попыту на працоўную сілу.**

Па выніках мінулага года ў дзяржаўную службу занятасці звярнулася за дапамогай у працаўладкаванні больш за 284 тысячы чалавек, з якіх амаль 215 тысяч зарэгістраваны беспрацоўнымі.

Усяго з улікам 100 тысяч, што лічыліся беспрацоўнымі на пачатак года, у паслугах дзяржаўнай службы занятасці мелі патрэбу амаль 600 тысяч чалавек, з якіх 400 тысяч — непасрэдна ў дапамозе па працаўладкаванню.

Але зарэгістраванае беспрацоўе, якое дасягнула максімальнага ўзроўню — 3,3 працэнта ў 1996 годзе, летась знізілася да 1,7 працэнта. Наладжванне кантактаў з прадпрыемствамі і арганізацыямі краіны, удасканаленне дзяржаўнага рэгулявання руху рабочай сілы дазволіла значна павялічыць колькасць працаўладкаваных у розныя галіны народнай гаспадаркі. За 1999 год гэты паказчык склаў 223 тысячы чалавек — 57 працэнтаў ад ліку тых, хто мае патрэбу ў працаўладкаванні (у 1996 годзе — 35 працэнтаў).

Калі на пачатак мінулага года на свабодныя рабочыя месцы можна было ўмоўна працаўладкаваць 29 працэнтаў беспрацоўных, то на 1 студзеня 2000 года — 40 працэнтаў. Напружанасць на рынку працы знізілася з 4 да 2 прэтэндэнтаў на адну вакансію. Перыяд беспрацоўя з моманту рэгістрацыі да працаўладкавання ў цэлым па краіне знізіўся з 4,0 да 3,2 месяца.

Магчымасці працаўладкавання непасрэдна залежаць ад узроўню прафесіянальнай адукацыі. Аднак у апошні час афіцыйны рынак працы ўсё болей папаўняецца малакваліфікаванай і неканкурэнтаздольнай рабочай сілай, што стварае дадатковыя цяжкасці. Толькі ў 1999 годзе сярод зарэгістраваных беспрацоўных колькасць выпускнікоў 9-х класаў школ (старэйшых за 16 гадоў) павялічылася на 25 працэнтаў. Таму на прафесійную падрыхтоўку летась было накіравана 28 тысяч чалавек, з якіх 47 працэнтаў атрымалі першую прафесію, а 46 — перападрыхтаваны па новых спецыяльнасцях. Пра эфектыўнасць данага напрамку дзейнасці сведчыць высокі ўзровень працаўладкавання тых, хто прайшоў навучанне — 70 працэнтаў (у еўрапейскіх краінах навучанне прызнаецца эфектыўным ужо пры 30-працэнтным працаўладкаванні).

Усё большае развіццё ў практыцы работы цэнтраў занятасці атрымлівае арганізацыя прафесійнага навучання беспрацоўных па заказах наймальнікаў на аснове трохбаковых дагавораў з гарантыяй далейшага працаўладкавання. У мінулым годзе па такой форме навучалася больш за 15 працэнтаў беспрацоўных.

У мэтах пераразмеркавання працоўных рэсурсаў за 1999 год у некаторыя раёны сельскай мясцовасці пераселена 277 сем'яў (па сутнасці, гэта тры вёскі сярэдніх памераў), ім аказана адпаведная фінансавая дапамога са сродкаў дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці.

Заканчэнне на 3-й стар.

АКТУАЛЬНА

## ДАН СТАРТ ВЫБАРЧАМУ МАРАФОНУ

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу назначаны на 15 кастрычніка 2000 года.

13 ліпеня, адразу пасля падпісання названага ўказа, адбылося спецыяльнае пасяджэнне Цэнтральнай выбарчай камісіі, на якім быў зацверджаны ўвесь пакет выбарчай дакументацыі — формы бюлетэняў, падпісных лістоў, пратаколаў і іншае, прыняты каляндарны план і каштарыс расходаў на правядзенне выбарчай кампаніі. Зацверджана таксама пастанова, якая датычыць парадку галасавання за мяжой, рэгістрацыі замежных і мясцовых наглядальнікаў, выкарыстання бюджэтных і пазабюджэтных сродкаў. У прыватнасці, у мэтах дадатковага фінансавання выбарчай кампаніі ствараецца пазабюджэтны фонд для добраахвотнага пералічэння ў яго сродкаў грамадскімі аб'яднаннямі, іншымі арганізацыямі і грамадзянамі Рэспублікі Беларусь.

Да маючых адбыцца выбараў прыкавана вялікая ўвага грамадскасці як унутры краіны, так і за мяжой. Гэта звязана з многімі палітычнымі абставінамі апошняга часу: застаецца адкрытым пытанне ўдзелу ў выбарах шэрагу вядучых палітычных партый краіны, таксама пакуль незразумела, ці дашлюць сваіх назіральнікаў адпаведныя міжнародныя арганізацыі. Новы Выбарчы кодэкс утрымлівае пэўныя наваўвядзенні: гэта датычыць пашырэння правоў наглядальнікаў, працэдуры праверкі падпісных лістоў і г. д. Але, па меркаванню апазіцыйных колаў, прынцыповыя прапановы так і не былі ўлічаны.

Тым не менш, выбарчы марафон, які, па словах старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, будзе для краіны важнейшай палітычнай падзеяй, узяў старт. Ужо вызначаны 110 акруг, дзе праз тры месяцы грамадзяне Беларусі павінны прыйсці да выбарчых урнаў.

РЭХА ФЕСТЫВАЛЮ

Мне не давялося сваімі вачыма пабачыць вядомы на ўвесь свет Монмартр, але я выразна ўяўляю, як там усё захапляюча. Менавіта пра гэтае знакамітае месца Парыжа ўзгадалася ў час фестывальных дзён у Віцебску, дзе ўсе цэнтральныя вуліцы былі застаўлены дзівоснымі вырабамі, карцінамі прафесійных і самадзейных мастакоў: ну чым не Монмартр? Вочы літаральна разбягаліся. Не ведаю, ці шмат было пакупнікоў, але гледачоў хапала. На імправізаваных прылаўках ляжалі вырабы з натуральных камянёў, металу — бранзалеты, пацеркі, завушніцы. Калега з Масквы прымервала льняныя кашулі фабрыкі мастацкіх вырабаў. Маю ж увагу прыцягнулі незвычайныя карціны і ўпрыгажэнні з незнаёмага матэрыялу. Разгаварылася з майстрам, які прывёз гэты цуд. Той сказаў, што працуе настаўнікам у адной з сельскіх школ Віцебскага раёна. А ўсё, што прапаноўвае на продаж, зроблена з берасту. Некалі пабываў на выстаўцы і "захварэў": захацелася самому авалодаць падобным рамяством. Пачаў чытаць літаратуру пра тэхналогію стварэння вырабаў з берасту і вось тое-сёе ўжо прывёз на ярмарку. Дарэчы, гэтыя сапраўды унікальныя вырабы каштавалі нядорага — за бранзалет 2 тысячы рублёў (каля двух долараў). Мяркую, разам з уражаннямі ад канцэртаў кожны ўдзельнік фестывалю павёз дамоў і сувенір, купленты на гэтай квяцістай ярмарцы.

Вялікую ўвагу гасцей "Славянскага базару ў Віцебску" прыцягнулі традыцыйныя Шагалаўскія чытанні, што ладзяцца тут у дзень нараджэння сусветна вядомага мастака.

З гэтай нагоды 5 ліпеня ў Драматычным тэатры імя Якуба Коласа быў паказаны спектакль па матывах п'есы У. Драздова "Прамы вагон на Парыж з усімі перасадкамі".

Заканчэнне на 2-й стар.



БелТА.

*Народныя майстры на вуліцах фестывальнага Віцебска.*

NEWS FROM BELARUS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BELARUS

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# ЛЯСНАЯ ПАЛОННІЦА

Калі па шчырасці, свой выбар стаць лесаводам Антаніна Кабылянская зрабіла выпадкова. Узяла даведнік для тых, хто паступае ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, і наўгад адкрыла старонку. На ёй аказаўся Беларускі тэхналагічны інстытут імя Кірава ў Мінску, як высветлілася, — яе лёс.

Бацькі спачатку адгаворвалі дзяўчыну, але зразумеўшы, што тая ад свайго не адступіць, прапанавалі хіміка-тэхналагічны факультэт, матывуючы тым, што гэта больш "жаночая" спецыяльнасць. Аднак Антаніна цвёрда трымалася свайго: толькі інжынер лясной гаспадаркі. Ящчэ ў дзяцінстве бацька неяк з жартам сказаў дачцэ, гледзячы на яе гарэзлівасць: "Табе б хлопцам нарадзіцца".

Сям'я Кабылянскіх тады жыла на Украіне, у Данбасе, дзе лясныя масівы адзін ад аднаго на многія кіламетры, а астатняе, як у той песні: "Степь да степь кругом". З дзяўчатамі не сябравала, толькі з хлопцамі — гулялі ў "казакоў-разбойнікаў", рабілі набегі на чужыя сады. Хлопцы лічылі Тоню сваёй, за словам у кішэню не палезе і за сябе, калі трэба, пастаіць, крыўдзіцелю спуску не дасць. На здзіўленне бацькоў, дзяўчына захапілася радыёсувяззю, займалася ў секцыі каратэ.

— Для мяне, — згадвае Антаніна Мікалаеўна, — розніцы тады не было, кім стаць, куды паступаць. Папалася б якая-небудзь магаданская вышэйшая навучальная ўстанова, не адступілася б.

Так Антаніна паехала ў невядомасць, у Беларусь. У інстытут паступіла. Толькі калі праходзіла практыку ў Негарэльскім вопытным лягсасе, дзяўчына зразумела, што не памылілася, здзейсніўшы гэты, як здавалася бацькам, лёгкадумны ўчынак.



— Лес мяне паланіў, — гаворыць яна. — Лесаводства — сапраўды творчая праца.

Праляцелі як адзін дзень студэнцкія гады. Здадзены выпускныя экзамены, пройдзена дыпломная практыка ў Любанскім лягсасе, і малады інжынер лясной гаспадаркі атрымлівае накіраванне ў далёкую Іркуцкую вобласць, ва Усолье-Сібірскі хімлягсас.

У 80-х бацькі Антаніны Мікалаеўны пераехалі на малую радзіму — на Любаншчыну, беларускае Палессе, у калгас з такой жа назвай.

Пісалі дачцэ, клікалі да сябе. Хопіць, маўляў, па Сібіры бадзяцца: роднае, яно заўсёды цяплейшае і сэрцу мілейшае. Паддалася на ўгаворы старых, ды і на Любаншчыне ж атрымала сваё першае працоўнае хрышчэнне.

Новы віток жыцця, новы і пачатак. Працавала ў Сасноўскім лясніцтве памочнікам ляснічага, потым у Асавецкім. Паступова пайшла па службовай лесвіцы вышэй і вышэй.

Сем гадоў была інжынерам лясной гаспадаркі лягсаса, а ў 1998-м дырэктар Мікалай Русаковіч пры падборы кандыдатуры на пасаду галоўнага ляснічага ў Мінскім абласным лесагаспадарчым аб'яднанні сказаў: "Лепшага памочніка, чым Антаніна Кабылянская, мне не трэба".

У 1993 годзе Антаніна стала маці — нарадзіла дачку. Зараз, гледзячы на сваю шасцігадовую "малечу", успамінае ўласнае дзяцінства і гаворыць, што дачка па шустрасці пецярых хлопцаў заменіць, такая ж гарэзлівая, непаседа. Нездарма кажуць: дзеці — наша люстэрка. Вось чаму мы час ад часу ўглядаемся ў іх твары, быццам спрабуем убачыць саміх сябе.

**Сяргей САБАДАШ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

РЭХА ФЕСТЫВАЛЮ





БелТА.

Пачатак на 1-й стар.

А 6 ліпеня, якраз у дзень нараджэння Марка Шагала, на вуліцы Пакроўскай, дзе прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады, адбылося свята "Айчына мая — у маёй душы..." На ім прысутнічалі шматлікія госці і ўдзельнікі фестывалю. Паколькі самога мастака называюць самым радасным мастаком у свеце, то і свята было менавіта такім — вясёлым, жыццясцвярджальным. Каля Мемарыяльнага дома-музея прайшло вясёлае тэатралізаванае прадстаўленне. Было многа гумару і вясёлых розыгрышаў.

А ў самім музеі адкрылася фотавыстава "Шагалаўскім дням у Віцебску — 10 гадоў", дзе падрабязна расказвалася, як праходзілі ўсе папярэднія святы, якіх ганаровых гасцей тут сустракалі.

Позна ўвечары ў скверы Маякоўскага з поспехам прайшла феерычная кампазіцыя "Я жыццё правёў у прадчуванні цуда".

Калісьці Марк Шагал расказваў у сваіх карцінах усяму свету пра Віцебск, а цяпер горад ушаноўваў памяць свайго знакамітага жыхара. І ўзнікала адчуванне, што аднекуль з Паднябесся мастак назірае за родным Віцебскам і, магчыма, нават намалюе гэтае свята так, як ён яго бачыць...

**Таццяна КУВАРЫНА.**

НА ЗДЫМКАХ: помнік Марку Шагалу ў Віцебску; удзельніцы свята Алеся БАРАДЗІНА і Саша БЯЛЯЕВА з тэатра "Сінтэз" Дварца культуры чыгуначнікаў каля Дома-музея.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ

# ІНФЕКЦЫІ НЕ ВЕДАЮЦЬ МЕЖАЎ

*Інфекцыі з намі ўсё жыццё. Кожны калі-небудзь хварэў на грып. І дзякуй Богу, калі толькі чуў, а не ведае на асабістым вопыце пра СНІД, сухоты і г. д. А яны ж побач. Пра распаўсюджанасць такіх хвароб на Беларусі гутарка нашага карэспандэнта Алены СПАСЮК з галоўным эпідэміёлагам Міністэрства аховы здароўя Анатолем КАЖАМЯКІНЫМ.*

**— Як бы вы ацанілі сітуацыю з інфекцыйнымі захворваннямі на Беларусі?**

— Сітуацыю кантралюем, але яна застаецца складанай і нестабільнай. Па адных інфекцыйных захворваннях ідзе зніжэнне, па іншых — рост.

**— Ці можна вызначыць прычыны росту колькасці інфекцыйных хвароб?**

— Яны вызначаюцца цыклічнасцю распаўсюджвання, характэрнай не толькі для нашай краіны, але і для ўсяго свету. Пасля двух-трох гадоў зніжэння колькасць захворванняў зноў узнімаецца.

Бактэрыі — жывыя арганізмы, якія відазмяняюцца, прыстасоўваюцца да навакольнага асяроддзя і паражаюць арганізм чалавека. На колькасць іх ахвяр уплываюць сацыяльныя, эканамічныя ўмовы жыцця, якасць і хуткасць медыцынскай дапамогі і іншае. Увогуле ж, інфекцыйныя хваробы былі і будуць.

**— Як выглядае Беларусь у параўнанні з іншымі краінамі?**

— Нядрэнна. Штогод з дзяржбюджэту на вакцынацыю і дыягнастычныя прэпараты выдаткоўваецца восем мільёнаў долараў ЗША. Айчынных вакцын у нас не выпрацоўваецца. Набываем у Расіі і ў далёкім замежжы. Сярод дзяцей колькасць прышчэпленых дасягае 97—98, у падлеткаў — 99 працэнтаў (лічыцца нармальным ужо 95 працэнтаў).

Уведзены новыя віды вакцынацыі. Кожны здаровы нованароджаны прышчэпліваецца ад туберкулёзу і ад гепатыту "В". Ёсць прышчэпкі ад краснухі. Дарэчы, у Расіі апошняе не з'яўляецца абавязковым. Вакцынацыя праводзіцца толькі ў некаторых рэгіёнах, дзе знаходзяць на яе сродкі.

**— Якія інфекцыйныя хваробы могуць знікнуць у нас у бліжэйшы час?**

— Мы блізкія да ліквідацыі поліяміэліту. Беларусь далучылася да праграмы Сусветнай арганізацыі па ахове здароўя па ліквідацыі гэтай страшнай хваробы і атрымала высокую ацэнку медыцынскай грамадскасці па яе ажыццяўленню.

Але з-за таго, што ў Расіі, у Чачні, зусім нядаўна назіралася ўспышка поліяміэліту, для ўсёй Еўропы тэрмін прызнання адсутнасці хваробы адкладзены яшчэ на тры гады. Столькі часу павінна прайсці без адзінага выпадку поліяміэліту, каб можна было казаць пра яго ліквідацыю.

**— Якая інфекцыйная хвароба самая распаўсюджаная?**

— Грып і рэспіраторныя захворванні. Штогод на грып пакутуе каля трох мільёнаў чалавек. Эпідэмія гэтага года была меншая, чым летась. Але грып заўсёды знаходзіцца пад пільнай увагай медыкаў. Ён прыносіць вялікую эканамічную шкоду: страты дзяржавы ў сувязі з вялікай колькасцю захворванняў складаюць каля 200 мільёнаў долараў у год.

На Беларусі дзейнічаюць праграмы, скіраваныя на барацьбу з інфекцыйнымі хваробамі. Адна з іх — "Інфекцыйныя хваробы і біятэхналогіі" — прадугледжвае яшчэ і вытворчасць айчынных сістэм і біяпрэпаратаў.

**— Сярод так званых "сацыяльных" хвароб самая страшная, напэўна, СНІД?**

— Так. Гэта, бадай, адзіная хвароба, супраць якой медыцына пакуль бяссільная.

Да 1996 года Беларусь лічылася краінай з нізкім узроўнем захворванняў на СНІД. Цяпер сітуацыя змянілася.

На пачатак года выяўлена 2 752 хворыя на ВІЧ-інфекцыю. Сярод іх 20 дзяцей. У гэту лічбу ўваходзяць дзеці, якія прыехалі на Беларусь з іншых краін. Частка заразілася ад ВІЧ-інфіцыраваных маці пры родах.

**— Ці ёсць на Беларусі выпадкі заражэння ВІЧ-інфекцыяй у медыцынскіх установах?**

— Не. Дзякуй Богу, не. На Беларусі існуе праграма барацьбы з ВІЧ-інфекцыяй, працуе Рэспубліканскі і абласныя цэнтры прафілактыкі СНІД.

Працэнт захворванняў у самай небяспечнай групе — ва ўзросце 15—17 гадоў знізіўся з 24,4 (1996 год) да 14,2 (1999).

Але ж насцярожвае ўзрастанне колькасці рэгіёнаў, дзе ёсць ВІЧ-інфіцыраваныя. Так у 1996 годзе было 28 такіх рэгіёнаў, сёлета — ужо 91. Хаця часта гэта адзінкавыя выпадкі. Але яны назіраюцца ўжо і на вёсцы, і ў малых гарадах. Напрыклад, на працягу пяці гадоў у Гродзенскай вобласці СНІДу не было. Цяпер жа з'явіўся.

У 2010 годзе на Беларусі, па прагнозах вучоных, можа быць 20 000 ВІЧ-інфіцыраваных.

**— Якія яшчэ інфекцыйныя хваробы адносяцца да "сацыяльных"?**

— Венерычныя захворванні, сухоты. Па ўсім свеце, уключаючы развітыя еўрапейскія краіны, колькасць людзей, што хварэюць на сухоты, расце. Звязана гэта ў першую чаргу з тым, што бактэрыі, якія выклікаюць хваробу, сталі ўстойлівымі да медыкаментаў, бо прыстасаваліся да іх. Раней сухоты лячылі адным-двума відамі лекаў. Цяпер жа, каб дамагчыся станоўчага выніку, прыходзіцца выкарыстоўваць значна больш медпрэпаратаў. Па прагнозу Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, пасля 2025 года колькасць выпадкаў захворвання на сухоты будзе вышэйшай за тую, што была ў пасляваеннае дзесяцігоддзе.

На Беларусі захворванні на сухоты за апошнія дзесяць гадоў узраслі на 80 працэнтаў. У 1999 годзе 5 479 чалавек атрымалі такі дыягназ.

Фінансуецца дзяржаўная праграма па барацьбе з сухотамі. Таму мы спадзяёмся на стабілізацыю сітуацыі.

Венерычныя захворванні — таксама "сацыяльная" хвароба. Дарэчы, у Еўропе іх колькасць не ўзрастае. Але для краін СНД — гэта вельмі актуальная праблема. Палавым спосабам перадаецца каля 30 хвароб. Не ўсе яны сустракаюцца ў нас. Тыя ж, якія ёсць, за апошнія гады павялічыліся ў некалькі разоў.

**— Вялікая колькасць інфекцыйных хвароб выклікае думку пра недастатковую агульную і бытавую культуру.**

— Гэта так. Большасць выпадкаў захворванняў выклікана недастатковым выкананнем правілаў асабістай гігіены, захоўвання прадуктаў харчавання.

Распаўсюджанне інфекцыі не мае межаў. Сістэма аховы здароўя павінна быць падрыхтаваная для выяўлення і лячэння падобных выпадкаў.

Некалькі гадоў таму ў нас былі выяўлены некалькі завезеных выпадкаў халеры. Яе перамаглі, прычым ніхто з кантактуючых, дзякуючы прынятым захадам, не заразіўся. Нельга недаацэньваць шкоду ад інфекцыйных хвароб. Але панікаваць таксама не варта.

ФАКТ

**У ЖЫХАРОЎ СТАЛІЦЫ З'ЯВІЛАСЯ МАГЧЫМАСЦЬ НАБЫЦЬ ЗЯМЛЮ ДЛЯ БУДАЎНІЦТВА ІНДЫВІДУАЛЬНАГА ЖЫЛЛЯ НА КОНКУРСНАЙ АСНОВЕ.** Умовы і парадак конкурснай перадачы зямельных участкаў у прыватную ўласнасць вызначаны рашэннем Мінгарвыканкама. У ім, у прыватнасці, устаноўлена, што конкурс праводзіцца Мінскгармаёмасцю толькі сярод пастаянных жыхароў Мінска. Сюды ж можна падаць і заяву, да якой дастаткова прыкласці толькі копію плацёжнага даручэння па выплаце задатку. Яго памеры складаюць 10 працэнтаў ад пачатковага кошту зямельнага ўчастка. Паведамленне аб правядзенні конкурсу загадзя друкуецца ў адным з перыядычных выданняў. Рашэнне пра перадачу пераможцу конкурсу зямлі для індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва ў прыватную ўласнасць прымае Мінгарвыканкам.

**Агенцтва Уладзіміра ГРАЎЦОВА.**

NACHRICHTEN AUS BELARUS * NOTICIAS DE BELARUS * NOTIZIE DI BELARUS * NOUVELLES DU BELARUS



САЦЫЯЛЬНЫ РАКУРС

# ЯК І РАНЕЙ, БЕСПРАЦОЎЕ НА БЕЛАРУСІ МАЕ ЖАНОЧЫ ТВАР

Пачатак на 1-й стар.

Гаспадаркі краіны папаўняліся сем'ямі, якія ў асноўным складаюцца з працаздольных грамадзян працаздольнага ўзросту, сярэдні ўзрост сям'і — 27 гадоў.

Акрамя таго, органамі дзяржаўнай службы занятасці робяцца канкрэтныя захады па арганізацыі абмену працоўнай сілай паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй. Так у лістападзе 1998 года падпісана Пагадненне паміж службамі занятасці Беларусі і Расіі аб партнёрстве і супрацоўніцтве. Ужо ў 1999 годзе ў рамках гэтага пагаднення з Пскоўскай вобласці ў гаспадаркі Віцебскай пераехалі 22 сям'і, якім былі прадастаўлены прысядзібныя ўчасткі і жылыя дамы з надворнымі пабудовамі.

У мінулым годзе ў грамадскіх работах бралі ўдзел 125 тысяч чалавек, у тым ліку 70 тысяч беспрацоўных. Працавалі яны галоўным чынам у сельскай мясцовасці.

У адпаведнасці з цяперашнім заканадаўствам, грамадзянам, няздольным на роўных канкурыраваць на рынку працы, — інвалідам, непаўналетняй моладзі, асобам перадпенсійнага ўзросту прадастаўляюцца дадатковыя гарантыі занятасці.

Асаблівая ўвага надаецца інвалідам: за 1999 год кампенсаваны затраты 14 прадпрыемствам інвалідаў. Гэта дазволіла забяспечыць занятасць і палепшыць умовы працы 145-ці чалавек.

Таксама аказваецца садзейнічанне ў працаўладкаванні на часовыя працоўныя месцы выпускнікам прафесійных навучальных устаноў — так званая "маладзёжная практыка". Вядзецца работа і па забеспячэнню другой занятасці моладзі: пры заданні 27 тысяч чалавек цэнтрамі занятасці грамадзян сумесна з мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі, суб'ектамі гаспадарання і грамадскімі арганізацыямі працаўладкавана ў вольны ад навучання час 41 тысяча школьнікаў і студэнтаў. Усяго за мінулы год міністэрствамі, іншымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, аблвыканкамамі, Мінскім гарвыканкамам створана звыш 50 тысяч новых месцаў, у тым ліку каля 6 тысяч з выкарыстаннем сродкаў дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці.

Разам з тым, у сферы забеспячэння занятасці насельніцтва ёсць праблемы, якія патрабуюць далейшага вырашэння. І галоўнае тут — занятасць моладзі. Болей паловы беспрацоўных, што стаяць на ўліку, — моладзь ва ўзросце 16—29 гадоў. Прычым 64 працэнты зарэгістраваных маладых людзей маюць толькі сярэднюю адукацыю.

Таксама захоўваецца праблема жаночага працаўладкавання. Сярод беспрацоўных 64 працэнты — жанчыны, але сярод некаторых асобных катэгорый беспрацоўных — выпускнікоў агульнаадукацыйных школ, вызваленых работнікаў, іх удзельная вага яшчэ вышэйшая і складае адпаведна 72 і 86 працэнтаў. Такім чынам, беспрацоўе, як і раней, мае жаночы твар.

**Дзмітрый ВАНЕЕЎ, старшыня Камітэта па занятасці насельніцтва.**

АСОБА




**Соф'я АНТОНАВА ўжо 33 гады працуе ў Рэспубліканскім экалагічным цэнтры і з'яўляецца самым вопытным яго кветкаводам. Яна ахвотна дзеліцца сваім багатым вопытам з маладымі, кіруе кружкамі юных кветкаводаў. Гартэнзіі, рамонкі, ліліі, хрызантэмы, якія вырошчвае Соф'я Іванаўна, — лепшы падарунак за паўсядзённую працу і клопат.**

**Фота Аляксея МАЦЮШКОВА.**

УРАЖАННІ

# ВОДГУЛЛЕ ВЯЧЫСТАЙ СЛАВЫ

**● Яўген ЛЕЦКА.**

Цікавая падзея адбылася 24—25 чэрвеня ў колішняй беларускай першасталіцы — слаўным горадзе Навагрудку. Горад нібыта памаладзеў на некалькі стагоддзяў, вярнуўся ў сярэднявечча. Паўсюль былі відаць ваяры з мячамі, дзідамі і арбалетамі. А побач прыгожымі павамі праплывалі паненкі, убраныя ў адмысловыя дзявочыя строі.

Такога, мяркую, у новым часе Беларусь яшчэ не бачыла. Ды гэтае вяртанне мінулага ў сучаснае не з'явілася чымсьці цалкам выпадковым. Бачыцца тут заканамерны працяг нястомнай працы руплівых даследчыкаў мінуўшчыны ды выдаўцоў, у выніку чаго змізарнелая гістарычная ніва беларушчыны за апошняе дзесяцігоддзе папоўнілася дзесяткамі сапраўды цікавых і значных кніг, частка якіх, праўда, была напісана яшчэ на пачатку стагоддзя, у шчодрыя на здабыткі 20-я гады.

Ды паколькі тут мова пра Навагрудак, то найперш трэба сказаць шчырае слова ўдзячнасці волату духу Міколу Ермаловічу, які на трагічнай ноце заўчасна назаўжды развітаўся з намі гэтым летам. Але напісанае застаецца. Ягоная "Старажытная Беларусь" — магутны чыннік нацыянальнай свядомасці, чарадзейны гаючы лек, які вяртае з забыцця нам нашае, набліжае і ўвідочнівае тое, што дзеялася тут шмат стагоддзяў назад.



А быў жа час, калі мы, народжаныя на Навградчыне, нават не падазравалі, на якой зямлі жывём і чым маем ганарыцца. Ды адкуль было ведаць, калі настаўнікі гісторыі старанна дамагаліся, каб мы на памяць ведалі ўсё, што было звязана з партыйна-камуністычнымі з'ездамі: калі і дзе яны адбываліся, колькі дэлегатаў прысутнічала і якія "лёсаносныя" рашэнні былі прыняты ў "золатагаловай Маскве", а следам тут, у Мінску. Расказвалі, вядома, і пра даўно мінулыя часы: пра Месапатамію і Егіпет, пра Ноўгарад і Разань, але маўчалі пра тое, што дзеялася на зямлі, дзе мы жылі, пра Навагрудак, адкуль запачаткавалася магутная дзяржава. Карацей, настаўнікі-манкурты выхоўвалі дзяцей-манкуртаў. І доўжылася такое стагоддзямі, ад часу, калі Вялікае княства Літоўскае (чытай, Беларусь) страціла самастойнасць, а з ёю і годнасць, і апынулася на задворках гісторыі. І толькі на пачатку XX стагоддзя нарэшце і для нас, беларусаў, выбліснула святло ў канцы такога доўгага і такога змрочнага тунеля...

Пра тое, што мы ўжо сёння не манкурты, а народ, які няхай сабе і пакутліва, праз хібы, патырчакі і перашкоды, але ўсё ж няўхільна набліжаецца да свайго нацыянальнага самаўсведамлення, засведчыла згаданая вышэй падзея. Яе афіцыйная назва — "Фэст сярэднявечнай культуры "Навагрудак 2000".

Свята расцягнулася на два дні і было запоўнена рознымі мерапрыемствамі, так ці іначай прымеркаванымі да рэканструкцыі падзей і духу часоў мінулых. Але апагеем усёй імпрэзы сталася інсцэніроўка бітвы 1314 года на Замкавай гары.

Звесткі ў гістарычнай літаратуры пра гэтую падзею вельмі скупыя. Адгортваем 5-ы том "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", значная частка якога прысвечана Наваградку, і чытаем: "На Наваградак неаднаразова нападалі татары і іх саюзнікі — дружыны галіцка-валынскіх князёў у 1250-я г., 1274, 1276, 1277, а потым крыжакі ў 1314, 1321, 1341, 1390, 1394". За датамі — слава перамог і горыч паражэнняў, узлёты і падзенні чалавечага духу, аднак пра тое, што гэта былі за бітвы і хто браў у іх удзел — ні слова...

Значна цікавейшыя і багацейшыя звесткі пра той засмужаны далеччу час знаходзім у кнізе "Памяць", прысвечанай Навагрудскаму раёну: "У час панавання Тройдзена (1270—1282) літоўцы і жыхары беларускага Панямоння канчаткова адстаялі сваю незалежнасць ад татараў і іх паўднёва-рускіх сатэлітаў. Пазней яны гэтак жа сумесна супрацьстаялі крыжакам Тэўтонскага ордэна, набегі якіх з канца XIII ст. пачалі дасягаць беларускага Панямоння, а ў 1314 г. тэўтонцамі была ўчынена аблога Ноўгарадка. У барацьбе гартавалася моц Літоўска-Беларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, і не выпадкова, што Ноўгарадак стаў адным з галоўных палітычных цэнтраў гэтай дзяржавы".

Аднак найбольш цікавым увасабленнем у дзеях канкрэтных гістарычных асоб уяўляецца мне інтэрпрэтацыя тых падзей ва ўжо згаданай вышэй кнізе Міколы Ермаловіча "Старажытная Беларусь. Полацкі, Новагародскі перыяды": "У 1314 годзе крыжакі нечакана рушылі на Новагародак, узялі яго і спалілі, а пасля сталі штурмаваць замак. І вось тут упершыню вызначыўся выдатны беларускі дзяржаўны дзеяч і палкаводзец Давыд Гарадзенскі. Гэта быў чалавек, надзелены незвычайнай энергіяй, прадпрымальнасцю і вайсковымі ведамі, таму карыстаўся высокай пашанай і займаў пасля вялікага князя першае месца ў дзяржаве. Нездарма ж Гедымін аддаў за яго замуж адну са сваіх дачок. Будучы гарадзенскім старастам, ён займаў адно з ключавых месц у абароне дзяржавы з боку Мазовіі і Тэўтонскага ордэна.

Такім чынам, палкаводчы талент Давыда Гарадзенскага ўпершыню яскрава выявіўся пры абароне Новагародка ў 1314 годзе, калі ён са сваім войскам з'явіўся на выручку крэпасці, якую абложылі крыжакі. Давыд авалодаў іх лагерам, перабіў варту, захапіў коней і харчовыя прыпасы. Крыжакі вымушаны былі адступаць, але на зваротным шляху не знайшлі ў пэўных месцах сваіх складаў з правіянтам, бо яны былі загадзя разбураны Давыдам. Крыжацкае войска, церпячы ад голаду, рассыпалася і амаль загінула ў непраходных балотах".

Спадзяюся, чытач адчуў і зразумеў, які ўдзячны, у тым ліку і для кінематографа, гістарычны матэрыял захаваны за гэтым па-летапіснаму сціслым, але напоўненым значным для існавання і выжывання народа сэнсам. Тое, што арганізатары "Фэсту сярэднявечнай культуры" звярнуліся менавіта да гэтага эпізоду нашай надзвычай багатай і слаўнай у старажытнасці гісторыі, заслугоўвае пахвалы. Але тут жа мушу зрабіць пэўныя закіды, бо, мяркую, выкарыстаны факты мінуўшчыны далёка не на поўніцу...

Але, як ні дзіўна, Давыда Гарадзенскага, аднаго з самых вызначальных і сімпатычных герояў беларускай гісторыі пасля полацкага Усяслава Чарадзея, гледачы падчас інсцэніроўкі бітвы 1314 года так і не пабачылі. Між тым нясцяжка ўявіць, які б эфект і высокі патрыятычны сэнс мела б з'яўленне славутага беларускага палкаводца.

З іншага "хібнага" ўвасаблення хачу адзначыць зашмат бутафорыі, якую, дарэчы, не толькі не хавалі, а нібы знарок дэманстравалі.

Ды не будзем забывацца, што такое ладзілася ў Беларусі ўпершыню. Я пацікавіўся думкай Ігара Міхно, таксама аднаго з асноўных арганізатараў фэсту. Ён, спаслаўшыся на сваю вялікую занятасць, коратка ўцаніў усю імпрэзу на "выдатна". Але такая эйфарыя, мабыць, вынікае ад таго, што яму няма з чым параўноўваць. А мае крытычныя закіды, бадай, вынікаюць з таго, што давялося быць сведкам падобных мерапрыемстваў у Чэхіі, дзе традыцыі рыцарскіх турніраў, а таксама інсцэніроўкі бітваў былі выдатна распрацаваны і ў камуністычныя часы. Там усё было прадумана да малых драбніц, і глядач пераносіўся ў сярэднявечча, глядзеў з захапленнем, трывогай і радасцю, асуджаў "чужых" і ўслаўляў "сваіх". Карацей, у нейкім сэнсе паводзіў сябе так, як гарачыя заўзятары на футбольных трыбунах...

Падобны момант на Навагрудскім фэсце адбыўся, калі нашыя ваяры адбілі ад сцен замка крыжацкую навалу і самі перайшлі ў наступ. Пачалася сапраўдная сеча, звонам мячоў абудзілася наваградская прастора, і шматтысячны натоўп у адзіным парыве выдыхнуў кліч веры і надзеі: "Жыве Беларусь!"

У заключэнне хацелася б добрым словам адзначыць тое, што ініцыятывы "нізоў" па наладжванню фэсту падтрымалі "вярхі" ў асобе новага старшыні райвыканкама спадара Ліса. З гэтым чалавекам пакуль што пазнаёміцца не выпадала, але прыемна было яго бачыць прысутным на адкрыцці выставы ўраджэнца Навагрудчыны Кастуся Качана ў сталічным Палацы мастацтва, і асабліва ў апошнім выпадку, на гэтым свяце агульнанацыянальнага абсягу, якое напэўна што не адбылося б без спрыяння і дзейснай падтрымкі раённай адміністрацыі. Праўда, у аргкамітэт свята зусім было б не лішнім увесці такіх на сёння вядомых, а то і славутых наваградцаў, якія жывуць у Мінску, Гародні, а то і іншых гарадах, як гісторык, акадэмік Міхась Касцюк, глыбокі знаўца старажытнасці Вячаслаў Чамярыцкі, доктар філасофіі Уладзімір Конан і г. д.




У старажытным беларускім горадзе Навагрудку адбыўся фестываль сярэдневяковай культуры. У ім прынялі ўдзел рыцарскія клубы Беларусі, Расіі, Латвіі. Два дні на Замкавай гары і цэнтральнай плошчы Навагрудка — у сярэднія вякі сталіцы Вялікага княства Літоўскага — узнікалі перад гледачамі сцэны гарадскога жыцця, побыту, культуры сярэдневякоўя.

**НА ЗДЫМКАХ: сцэны свята ў Навагрудку.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

СТАСУНКІ



Міжнародная выстава малюнкаў глухіх дзяцей прайшла ў Гомелі. У праграме выставы, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі сямі краін, у тым ліку шатландцы, французы, казахі, украінцы, расіяне, быў і пленэр "Гомель вачыма дзяцей". Адбыліся абмен думкамі, семінарскія заняткі для кіраўнікоў студый выяўленчага мастацтва, што займаюцца з інвалідамі па слыху.

НА ЗДЫМКУ: за мальбертам юныя мастакі. На першым плане Алег ЯКУТОВІЧ і Улад БЕЛАКАПЫТАЎ з Гомеля.

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ: БЕЛЬГІЯ

# АЙЦЕЦ РОБЭРТ ВАН КАЎВЭЛЯРТ ДЭ УІЛЬС

З УСПАМІНАЎ *Янкі ЖУЧКІ*

Айцец Робэрт — гэта легендарная асоба ў нашым культуральна-адраджэнскім руху за межамі Беларусі. Асабіста я пачуў ягонае імя будучы ў Ангельшчыне ў складзе 12-кі, дзе мы ўсе працавалі ў вугальных капальнях і стараліся здабыць магчымасць на вышэйшыя студы. З самага пачатку я думаў, што гэта наш зямляк таму, што весткі, якія мы атрымлівалі, паказвалі сапраўднага беларускага патрыёта. Але пазьней даведа́ўся, што ён бэльгіец і вельмі моцна зацікаўлены нашаю Бацькаўшчынаю.

Атрымаўшы ўрэшце вестку, што стыпэндыі атрымалі, мы прыбылі на пачатку 1950 году ў Бэльгію, дзе спаткаліся з а. Робэртам.

Ужо пры першым спатканьні я адчуў ад яго вялікую шчырасьць і зацікаўлянасьць Беларусьсю. Шчыра сказаўшы — мне рэдка здаралася бачыць саміх беларусаў, якія-б так імпульсыўна адносіліся да нашае нацыянальнае справы. Гэта былі нашыя першыя кантакты зь ім.



*Айцец Робэрт.*

У далейшым, а. Робэрт паказаўся надзвычай талерантным да веравызнаньня, асабліва, што адносілася да нашага — праваслаўнага й каталіцкага. Некаторыя з нашых студэнтаў, праваслаўнага веравызнаньня, жаніліся з бэльгійкамі-каталічкамі. Паўставалі некаторыя цяжкасьці з прычыны ігнарацыі сьвятарамі кананічных правоў. Тут а. Робэрт даваў разьвязку. Трэба таксама зазначыць, што талерантнасьць рэлігіў існавала і ў каталіцкім унівэрсытэце ў Лювэне. Напрыклад, на ўсіх факультэтах на апошнім годзе была лекцыя т.зв. "Рэлігійныя пытаньні", некаторыя прафэсары гэтае лекцыі проста вызвалялі праваслаўных з гэтага экзамену, матывуючы, што гэта ня мае нічога супольнага зь іхняй рэлігіяй.

Айцец Робэрт быў для нас, як родны бацька. Ягоная заклапочанасьць была каб мы добра вучыліся й былі патрыётамі Беларусі. Часамі, калі нехта "праваліў" экзамены, дык ён казаў: "Гэта не страшна, гэта будзе для вас паглыбленьнем ведаў, пастарайцеся толькі здаць на наступным годзе". Для а. Робэрта Беларусь была сьвятая краіна. Зрэштай перад канцом свайго жыцьця, ён абяцаў мне даказаць, што нашая Рагнеда мела вялікую пучнасьць з Фляндрыяю. "Янка, — казаў ён мне незадоўга перад сьмерцьцю, — я так хацеў бы адведаць вашую Бацькаўшчыну, вашых родных, асабліва вашага тату". Айцец Робэрт бяз майго ведама, дастаўшы нейкім спосабам дамашні адрас нашае сямьі, напісаў майму бацьку ліст. У той час я дагадваўся, а ён нічога ня ведаў, што мой бацька быў высланы ў Сібір. Той ліст зрабіў шмат няпрыемнасьцяў нашай сямьі. Акрамя бацькі, які быў у лягеры і ліста гэта ніколі ня бачыў, іншых КГБ (ці як яно ў той час звалася?) па чарзе выклікала й дапрашвала, як адносна мяне так і адносна а. Робэрта, аб якім ніхто з нашае сямьі ні чагускі ня чуў.

Айцец Робэрт аб гэтым нічога ня ведаў, дый я таксама, пакуль не спаткаўся з маею сястрою, якая прыязджала да мяне ў 1988 пасьля сьмерці а. Робэрта. Я за гэта на а. Робэрта нічуць не пакрыўдзіўся, бо добра ведаў, што ён хацеў з-за свае шчырае наіўнасьці зрабіць мне прыемнасьць.

Айцец Робэрт прасіў мяне, каб я прыйшоў з маімі сынамі, якіх ён разам з а. Смаршком хрысьціў. "Я хацеў-бы зь імі яшчэ пагутарыць і сказаць ім, каб яны не забывалі, што іхняя Бацькаўшчына — гэта Беларусь і каб яны кахалі яе". На вялікі жаль, гэтыя ягоныя апошнія жаданьні з розных прычынаў ня споўніліся.

Айцец Робэрт быў арыстакратычнага паходжаньня, і ён гэтага не хаваў, але адначасна быў вельмі талерантны да іншых слаёў. Ён вельмі добра ведаў, што мы, у большыні, паходзілі з сялянаў. На гледзячы на гэта ён нас паважаў і ніколі не паказваў і не даваў адчуць, што мы ніжэйшыя за іншых.

НАТАТКІ ДАСЛЕДЧЫКА

● Алесь БАРКОЎСКІ.

# ЛЁСЫ

У "Масеевай кнізе" (Мн., 1994 г.) Масей Сяднёў, беларускі пісьменнік, які жыве ў ЗША, успамінае: "...Я згадаў тут мову. О, які гэта фактар! Здзіўлю, калі скажу, што жывую, народную, не літаратурную беларускую мову я ўпершыню пачуў у менскай турме ад падлетка — школьніка з Заходняй, прыгранічнай Беларусі. У крыўдзе на бацьку ён перайшоў мяжу. Бацька за нейкае непаслушэнства даў яму дзягі, і хлопчык, закасаўшы свае штонікі, укевелены, перайшоў рэчку і наўзнак апынуўся ў Саветах. Быў я здзіўлены ягонай чысцюсенькай, прыгожай беларускай мовай. Сам я паходжу з паўднёва-ўсходняга кутка Беларусі, і гаворка там мяшаная, не тыпова беларуская, пераходная. Я ведаў толькі беларускую літаратурную мову і быў абрадаваны, калі пачуў ад перабежчыка сапраўдную беларускую мову".

Аб тым, як складваўся лёс гэткіх "перабежчыкаў", можна даведацца з успаміна-замалёўкі былога індзігірскага геолага, а зараз жыхара Рыгі Л. Папова:

"Жыў у Польшчы беларускі хлопец Кузьма. Не меў ні кала, ні двара, батрачыў на паноў. Спрачаўся з імі, свае правы бараніў. Яны яго то харчамі абдзеляць, то з заробку больш чым трэба вылічаць. Пачуў Кузьма, што побач ёсць дзяржава рабочых ды сялян. Кінуў ён паноў і пайшоў за мяжу. Сустрэлі яго на мяжы — парасպытвалі. Распавёў Кузьма ўсё, як было. Не паверылі рабочыя і сяляне, не змаглі, мабыць, зразумець, як можна ад капіталізму добраахвотна сыйсці. Было гэта ў 1939 годзе. Далі Кузьме для пачатку дзесяць гадоў, як агенту імперыялізму. Потым яшчэ дадалі. З лагера ў лагер і дабраўся Кузьма ад Індзігіркі. Тут яго і вызвалілі ў 1954 годзе. Нават пашпарт далі, але без грамадзянства. Пачаў Кузьма на волі жыць, праўду шукаць. Летам у полі з геолагамі ходзіць, базу вартуе, хлеб выпякае, а ў маразы ў пасёлку перабіваецца. Адну зіму ў нас у будынку ІТС днявальў. Аднойчы напіўся, пачаў стрэльбу прасіць, адпомсціць камусьці жадаў. Нам на працу ісці (справа ў абед была), а як Кузьму са стрэльбай пакінеш? Самы мудры з нас затвор выняў і непрыкметна Кузьме пад падушку паклаў. Увечары прыходзім, а ў хаце ўсё дагары нагамі — Кузьма затвор шукаў, але гэтак і не знайшоў. Не знайшоў Кузьма і свайго месца ў жыцці. Пачынаць усё спачатку сіл няма, прытуліць галаву таксама няма дзе — сям'і няма, крэўных згублены. Узлаваўся на ўсіх Кузьма. Прывёў яго лёс ізноў на лаву падсудных. Гэтак і загінуў ён".

А вось яшчэ адзін лёс...

Аб ім сведчыць інтэрв'ю Алены Патоцкай, якое яна ўзяла ў Антона Даўлюда, які нарадзіўся 15 ліпеня 1919 года ў вёсцы Навіны на Наваградчыне. Бацькі памерлі, калі яму было толькі шэсць гадоў, таму да 1935 года ён жыў з бабуляй. У 1941 пайшоў у партызаны, быў кулямётчыкам, камандзірам аддзялення, пакуль 20 ліпеня 1944 года іхні атрад не злучыўся з Чырвонай Арміяй. Антона Даўлюда пакінулі працаваць пры сельсавеце, і ён стаў дырэктарам саўгаса, але ўжо ў 1945 годзе быў асуджаны на восем гадоў "за перавышэнне службовых паўнамоцтваў" і накіраваны на Калыму. Працаваў на будаўніцтве мастоў, дарог, будынкаў, на сплаве лесу. У 1951 годзе датэрмінова быў вызвалены. Ажаніўся з мясцовай ураджэнкаю, якая нарадзіла яму чатырох дачок. А зараз ён мае 14 унукаў. А. Даўлюд стала асеў у пасёлку Церуць Аймяконскага раёна (зараз улуса) Якуціі. Працаваў цесляром. У 1976 годзе выйшаў на пенсію, але да апошняга часу працаваў сантэхнікам. Напрыканцы інтэрв'ю Алена Патоцкая пытае ў яго:

— Антон Антонавіч, ці сумуеце па сваёй радзіме — Беларусі? Ці ёсць там у вас сваякі?

— Не, ніколі не сумаваў па крэўных, па радзіме. Мабыць, адбілася тое, што я быў нікому непатрэбным сіратою, заўжды галодны, босы — успаміны пра дзяцінства кепскія. Са сваякоў стрыечныя браты засталіся. У пяцідзесятых гадах некалькі разоў пісаў, расшукваў. Яны не сталі мне адказваць, і я перастаў іх турбаваць...

МАСТАК СЦЭНЫ

# АБРЫСЫ «ЛЯТУЧАЙ МЫШЫ»





Вядомы тэатральны мастак Яўген Ждан адзначыў 35-годдзе сваёй творчай дзейнасці. У апошнія гады Яўген Іванавіч працуе галоўным мастаком Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі. Тут ім аформлены спектаклі "Шляпа Напалеона", "Цыганскі барон", "Севастопальскі вальс", "Цалуй мяне, Кэт", "Даратэя". Зараз у тэатры рыхтуецца да пастаноўкі папулярная аперэта І. Штрауса "Лятучая мыш". Над дэкарацыямі да спектакля працуе Яўген Ждан.

НА ЗДЫМКАХ: Яўген ЖДАН; работа Я. ЖДАНА "Тарэйкаўская мадона".

**Валерый ХАРЧАНКА,** БелТА.

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

ЛАТВІЯ

Кіраўніцтва беларускага таварыства "Уздым" разам з ансамблем "Купалінка" і дзецьмі беларускай нядзельнай школы прынялі ўдзел у днях беларускай культуры ў Ніўгале. Тут іх гасцінна прымала загадчыца мясцовай бібліятэкі Рута Багданава. На сустрэчу прыйшлі жыхары гэтага пасёлка, сярод якіх нямала беларусаў. Былі чуваць беларускія песні і вершы, вялася застольная размова. На гэтым свяце таксама мелі слова прафесар ДПУ Людміла Ціможчанка, паэтэсы Фаіна Осіна і Ірына Рабатуева.

Дапамогу ў арганізацыі паездкі аказаў Даўгаўпілскі аўтапарк, за што яму шчырае дзякуй.

* * *

У Даўгаўпілсе гасціла супрацоўнік Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь Любоў Балаўнёва. У Цэнтры беларускай культуры яна сустрэлася з дырэктарам ЦБК Аляксандрам Рудзем, старшынёй беларускага таварыства "Уздым" Таццянай Бучэль і намеснікамі старшыні гэтага таварыства Станіславам Валодзькам і Зінаідай Сіліняй. У сустрэчы прымалі ўдзел генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе Васіль Марковіч і консул Аляксандр Концкі. Абмяркоўвалася шэраг актуальных пытанняў для беларускай дыяспары ў Даўгаўпілсе.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**
г. Даўгаўпілс.



ЛІТАРАТУРНЫЯ ЧЫТАННІ

# ПРАЎДЗІВАЯ ГІСТОРЫЯ КРАІНЫ ХЛУДАЎ

Алег МІНКІН



## Я ЗАЙЗДРОШЧУ СЬМЕЦЯРАМ!

Вельмі хочацца апісаць сапраўдныя жывыя пачуцьці. Аднак, паколькі йснуе краіна, абнесеная Высокім квадратным парканам, дык даводзіцца прымірыцца з тым сумным фактам, што аніякіх сапраўдных пачуцьцяў у гэтай краіне няма й быць ня можа. І хоць мастак Круцель Манцель ды арыстакратка Гарэзія Набіванка ахвотна й шмат разважаюць пра мастацтва й вечнае каханьне, але дарэшты зразумела, што кожны зь іх папросту практыкуецца ў красамоўстве і ўвадначасьсе любуецца самім сабою.

— Так, — кажа Круцель Манцель, — нядрэнна было б пагаманіць пра сьмерць у яе філязофскім аспэкце.

— Мне ня страшна памерці, мне страшна — *памерці!* — адказвае яму на гэта Гарэзія Набіванка.

— Чаму?!

— Таму што сэрца маё разьбітае, і мне зусім не да гульні!

— Ну дык і што? Душы хлудаў — гэта бездапаможныя мятлушкі ў сіняй пустэчы адзіноты. І кожны з нас — такая безабаронная мятлушка, якая заблудзілася ў імгле... Ды ўсё адно, якое гэта шчасьце — жыць і кахаць!

— А мяне ванітуе ад аптымістаў, якія ўсё жыцьцё толькі тое й робяць, што ўдавана ўсьміхаюцца. Я ведаю: пад крамянаю скарынкаю іхніх жыцьцярадасных усьмешак прыхавана тая самая бездань узаемнай чэрствасьці й абыякавасьці. Я зайздрошчу сьмецярам! Гэта ж так цудоўна рабіць штосьці сваімі рукамі, адчуваць, што ты жывеш на сьвеце ня марна, а прыносячы карысьць, — замест таго, каб балбатаць ад ранку й да вечара пра сьмерць, мастацтва і ўсялякія там выбухі трансcьвядомасьці.

— Так, і я б хацеў зрабіцца такім самым, як сьмецяры. Спрасьціцца, ці што? Аднак баюся, што з нашым багажом шляху назад ужо няма...

Чуецца грукат. Дзьверы зьлятаюць з завесаў, і два п'яныя сьмецяры, узрадавана рагочучы, хапаюць каханкаў і, не зважаючы на іхнія пратэсты, цягнуць на вуліцу.

## АПОШНІ РАМАНТЫК

Апошні рамантык і геній пакуты Гіцаль Валанцай сунуўся наўзгад па засьцеленай сьвітальным туманам вуліцы Тонкіх-да-нябачнасьці намёкаў, нацята прыслухоўваючыся, як журботна грукае аб днішча паходнага сагана альпэншток, рукавятка якога вытаркалася з агромністага брунатнага плецака за сьпінаю. Ён здаваўся сабе прывідам, які выпадкова патрапіў у сырую й змрочную студню Краіны Хлудаў, прыляцеў сюды зь нейкага загадкавага іншасьвету й заблудзіўся, марна шукаючы выйсьця з загуслай малочнай куламесы, замкнёнай з усіх бакоў мурамі Высокага квадратнага паркану. Здаваўся самотным духам, асуджаным спазнаць тугу й боль усіх часоў і пакаленьняў, — і, мімаволі, адзіным сапраўдным выйсьцем, адзіным ратункам стала бачыцца яму самагубства...

Аднак, што там — за непрыступнымі мурамі Высокага квадратнага паркану? Ці не паркан падзяляе хлудаў на мёртвых і жывых? Што там — вечная музыка ці нябыт, глухі й бязрадасны? Вось яно — самае балеснае пытаньне ўсіх прамінулых і наступных пакаленьняў! І што ў параўнаньні з гэтым і брук, па якім ён ідзе, і ён сам, і ўся Хлудзія? Ілюзія, відма, фантом, — і болей нічога! І гэтая йстота, што набліжаецца да яго, гэты бедны сьмяцяр, — і ён асуджаны рана ці позна перайсьці наканаваную мяжу й зьнікнуць у нівечы, адкуль няма вяртаньня... Так, браце мой, мы з табою абодва толькі вандроўнікі на гэтай пустэльнай зямлі...

З глыбокаю усёдаравальнаю тугою вочы генія пакуты спыніліся на каржакаватай постаці дужага сьмецяра, а той бязь лішніх словаў схапіў Гіцля за каршэнь, хутчэй за ўсё выпадкова прыхапіўшы й пасму рэдкіх бялёсых валасоў, і некуды пацягнуў яго. Пра што ў той момант думаў апошні рамантык, назаўсёды засталося таямніцаю.

## І НІЯКАЯ Я НЕ БАГЕМА!

Пры першым жа паведамленьні пра зьмену дзяржаўнай улады народны пісьменьнік Хлудзіі Цьвінтарэй кінуўся шукаць надзейнага сховішча. Добра ведаючы, што за доўгія гады ягонай нястомнай пісьменьніцкай працы ніводную напісаную ім кнігу так ніхто ні разу й не прачытаў, Цьвінтарэй вырашыў схавацца пад кучай уласных твораў. Кемны ад прыроды, славуты пісьменьнік прыхапіў апроч пляшкі "Горкага палыну" яшчэ й асадку з атрамантам.

Падчасператрусу аніхто са сьмецяроў, пэўна, і не здагадаўся б шукаць пісьменьніка пад кучаю кніг і рукапісаў, у бязладзьдзі зваленых у адным з пакояў прасторнай пісьменьніцкай камяніцы, і, магчыма, яго так бы й не знайшлі, калі б аднаму са сьмецяроў не закарцела пакурыць. Сьмяцяр гэты ўзяў з кучы, пад якою стаіўся знакаміты пісьменьнік, адзін зь ягоных раманаў, выдраў старонку, згарнуў казіную ножку й, прыкурыўшы, па складох прачытаў: "Сьмешна толькі мне" — загаловак таўшчэзнай кнігі, якую трымаў у руках. Затым перавёў зацікаўлены позірк на кучмень паперы, які высіўся пасярод пакою.

— Проста ня верыцца, — зьвярнуўся ён да напарніка, — што столькі кніжак мог напісаць адзін хлуд. Напэўна, толькі лічылася, што ўсё гэта напісана ім адным, а папраўдзе яму дапамагала процьма народу: сын, дачка, цешча дый іншыя сваякі!

— Яшчэ й знаёмыя дапамагалі! — упэўнена прамовіў другі сьмяцяр. — Ведаю я гэтую багему!

Пры гэтых словах кніжная горка заварушылася, і стуль, нібы з сутарэньня, данёсься глухі голас:

— Няпраўда! Пісаў я й ніхто іншы! І ніякая я не багема! Мой бацька таксама быў сьмяцяр!

Пасьля чаго Цьвінтарэй вылез з кучы, страсянуў зь пінжака пыл і прыняў той самавіты выгляд, які ён заўсёды прымаў, калі яму ўручалі чарговую ўзнагароду. Мяркуючы па выглядзе, яму шмат чаго хацелася сказаць хлудзкаму народу, ды, на жаль, гэтым разам яму не пашэнціла, і тое, пра што ён меўся распавесьці, так і не зрабілася здабыткам гісторыі.

## ІНШАЗЕМЕЦ ШАМПАНСКІ ЧЫТАЕ МАНІХВЭСТ

Іншаземец Шампанскі ня быў заарыштаваны толькі таму, што меў замежны пашпарт і лічыўся "пэрсонаю грата". Помсьцячы яму за гэта, натоўп разьюшаных сьмецяроў не аднаго разу выбіваў шкло ў вокнах ягонага асабняка. Прычым той самы натоўп кожнага разу ўстаўляў шкло на месца за асобную, зразумела, плату. Усё гэта, тым ня менш, не замінала Шампанскаму рэгулярна шпацыраваць па вуліцы Вернасьці, вуліцы Зарослай пустазельлем і па бульвары Абяцанкаў-цацанкаў.

Купіўшы падчас аднаго са шпацыраў газэту "Нехлусьлівы хлуд", Шампанскі прачытаў набранае тлустым шрыфтам: "Ненавісны тыран Вярэня Водае зрынуты й спляжаны! У гонар перамогі новы гаспадар Цмок Калывок запрашае грамадзянаў на фэст. Яўка абавязковая. Форма адзеньня — бэзавыя шаравары". Далей у Маніхвэсьце прапаноўваліся мерапрыемствы, якія складалі падмурак праграмы новага ўраду:

Пафарбаваць Высокі квадратны паркан у бэзавы колер, тэрмінова пазабіваўшы ўсе шчыліны ў ім.

Абвясьціць непрымірымую вайну ўсяму, што знаходзіцца па-за Высокім квадратным парканам, бо калі варожае Запарканьне ня будзе зьнішчана, то яно само зьнішчыць Краіну Хлудаў.

Нацыяналізаваць і выкарчаваць Нясумныя прысады, месца шпацыру й гульняў так званых багемаўцаў, а, дакладней, разбэшчаных гультаёў і абібокаў, — замест таго сіламі гультаёў і абібокаў пракапаць канал, які злучыць Сажалку саму з сабой. (Тут жа паведамлялася, што былы мастак Круцель Манцель, былы рамантык Гіцаль Валанцай, былая арыстакратка Гарэзія Набіванка, былы народны пісьменьнік Цьвінтарэй дый шмат іншых недавяркаў ужо працуюць на гэтай Вялікай Будоўлі).

Перайменаваць вуліцу Вернасьці ў вуліцу імя Цмока Калывока.

Павытурваць з краіны ўсіх іншаземцаў.

З усіх пунктаў праграмы новага кіравецтва Шампанскаму найменш падабаўся апошні. Згарнуўшы газэту й, ня трацячы пачуцьця ўласнай годнасьці, ён павольным крокам вярнуўся дахаты й пачаў пакаваць валізкі зь яркімі налепкамі нейкае невядомае дзяржавы.

## МЫ СТАІМ НА ПАРОЗЕ АДРАДЖЭНЬНЯ!

Празь які тыдзень па выданьні Маніхвэста над Краінаю Хлудаў папаўзьлі грувасткія сьнегавыя аблокі. Падмарозіла. Закружылі ў паветры лёгкія хлапякі. Усе хлуды, акрамя былых багемаўцаў, якія сканчалі будаўніцтва канала, пачалі рыхтавацца да чарговай зімовай сьпячкі. І калі зь імглістага неба замест павольных хлапякоў пасыпалася дробнае крышталёвае пілавіньне, усе да аднаго спалі салодкім сном. І толькі будаўнікі канала, раз-пораз хукаючы на скалелыя рукі, усё яшчэ дзяўблі зьмерзлую, непадатную глебу былых Нясумных прысадаў.

На зьмярканьні ўзьняўся вецер. Хаты й камяніцы патанулі ў беламройнай крутаверці. Па Пляцы папаўзьлі хвалістыя дуйкі. Да ночы мястэчка пад самыя дахі занесла сьнегам. Адзін толькі чорны квадрат паркану паранейшаму тырчэў са сьнегу ды выцьвілая бэзавая анучка на сьпічаку палаца спалохана калацілася на ветры.

На золку завея суцішылася. З-пад нізкіх аблокаў выбралася надкусаная поўня. На сьнезе, падсіненым яе зьзяньнем, запаліліся крышталікі, якія перамігрваліся з далёкімі агеньчыкамі зорак, і калі б ня чорны квадрат на блакітнай сьнежнай асноведзі, магло б здацца, што ніколі й не было на сьвеце такой Краіны Хлудаў...

Раньняя зіма й сьпячка перашкодзілі няўрымснаму дыктатару Цмоку Калывоку ажыцьцявіць усё задуманае ім па карэннаму абнаўленьню Хлудзіі. У былых Нясумных прысадах ацалелі тры дрэвы, у шатах якіх стрыкатала з тузін напаўжывых конікаў. У Сажалцы пялёскаліся жвавыя апалонікі — нашчадкі апошняй, ня зьедзенай будаўнікамі канала жабы. Заходні мур Высокага квадратнага паркану так і ня быў пафарбаваны. Затое канал сіламі багемаўцаў быў цалкам пракапаны, хоць ваду ў яго так і не пусьцілі.

Менавіта ўласьцівасьцю хлудаў упадаць штогод у зімовую сьпячку гісторыкі вытлумачылі пазьней той факт, што хлуды ўвогуле захаваліся, як від, і так званае Новае Жыцьцё, пра хуткі надыход якога ўжо ўсур'ёз пачалі пагаворваць, так і не надышло.

Прачнуўшыся, хлуды даведаліся пра Адраджэньне, якое распачалі ў краіне мала каму вядомыя дагэтуль "рухавыя" зь Хіцерам Зьміцерам на чале. "Такім чынам, мы стаім на парозе Адраджэньня!" — урачыста казалі хлуды, узрадаваныя магчымасьцю гаварыць, якую амаль што страцілі падчас крывавага гаспадараньня Цмока. "Ах, як гэта рамантычна — Ад-ра-джэнь-не!" — шапталі хлудкі, смакуючы напаўзабытае слова "рамантычна", і азіраліся: а раптам іх зразумеюць ня так, як трэба?

Дзякуючы Адраджэньню, былі пасьмяротна рэабілітаваныя й вернутыя ў сьпіс грамадзянаў геній пакуты й рамантычны герой Гіцаль Валанцай і славуты мастак Круцель Манцель: менавіта яны перакарчавалі ледзьве не палову Нясумных прысадаў. Рэабілітавалі таксама бяз права грамадзянства й арыстакратку Гарэзію Набіванку. І народны пісьменнік Цьвінтарэй атрымаў магчымасьць вярнуцца дахаты й заняцца творчасьцю, хоць гэтаму моцна замінала застарэлая нястраўнасьць і хранічны катар, зароблены ім на будаўніцтве канала. А іншаземец Шампанскі, які ўжо спакаваў быў свае валізкі, застаўся ў Хлудзіі.

## РУХАВЫЯ

Дыктатар Цмок, як ужо згадвалася, быў зрынуты рухавымі з Хіцерам Зьміцерам на чале. Уласна, ніхто Цмока не скідаў: перад тым, як упасьці ў зімовую сьпячку, ён, баючыся ворагаў і прэтэндэнтаў, загадаў загарнуць сябе ў ваўняную коўдру й пакласьці ў саркафаг з гіпсалітавых плітаў. Калі ж сьмецяры з асабістай варты дыктатара ўзламалі саркафаг і разгарнулі коўдру, дык выявілася, што іхні гаспадар бясьсьледна зьнік, пакінуўшы па сабе толькі блішчастыя чорныя акуляры. Паколькі прыймальных тлумачэньняў гэтаму дзіўнаму зьнікненьню так і не знайшлося, адказнасьць за выключнае здарэньне ўзяла на сябе адзіная дазволеная ў краіне падпольная арганізацыя рухавых. Іхні ачольнік Хіцер Зьміцер выйшаў з падпольля, а патайныя кватэры арганізацыі былі зачыненыя.

У мінуласьці Хіцер Зьміцер быў паэтам, які ня меў прызнаньня. Расчараваўшыся ў прыгожым пісьменстве, ён вырашыў, што сапраўднае ягонае прызначэньне — барацьба за волю й незалежнасьць хлудзкага народу, прычым галоўным пунктам ягонай праграмы было патрабаваньне дазволіць яму прынародна ўзыйсьці на трыбуну ў чорнай скуранцы. Апроч таго, ён настойваў на неабходнасьці перафарбоўкі Высокага квадратнага паркану ў зялёны колер і засыпцы канала, які злучаў Сажалку саму з сабой.

Акурат тады, калі Хіцер адыйшоў ад паэзіі, дыктатар Цмок, нягледзячы на закон, паводле якога ўсе грамадзяне Хлудзіі абвяшчаліся патэнцыяльнымі ворагамі Хлудзіі, — пачаў адчуваць востры дэфіцыт тых сілаў, якім бы мог абвясьціць рашучую й непрымірымую вайну. Таму зразумела, што Хіцеру прапанову пра стварэньне падпольнай арганізацыі па барацьбе з пануючым рэжымам дыктатар з радасьцю ўхваліў. Пасьля чаго былі абраныя два сьмецяры для пабудовы падпольля пад падлогаю хаціны Хіцера, а таксама быў зацьверджаны склад падпольнага камітэту, сябры якога прымаліся на працу й атрымоўвалі заробак у адной зь філіяў Палаца гаспадароў. Там жа, у падпольлі Хіцеравай хаты, разьмясьцілі й друкарню падпольнай газэты "Адраджэньне", кожны нумар якой рэдагаваўся асабіста Цмокам Калывокам.

Даведаўшыся пра зьнікненьне дыктатара, Хіцер выйшаў з падпольля. Прычым вочы ягоныя настолькі адвыклі ад дзённага сьвятла, што ён быў змушаны надзець чорныя акуляры зьніклага. У гэтых акулярах Хіцер так упадобніўся да Цмока, што зь першага погляду можна было падумаць, нібыта Цмок нікуды й не зьнікаў. І толькі храбусткая камізэлька, пашытая са скуры апошняй вылаўленай у Сажалцы жабы й неадкладна апраненая ім, засьцерагала ад гэтае памылковае думкі.

Працяг.
Пачатак у № 29.






# НОГІ САМІ ІДУЦЬ У СКОКІ

● Яўген КАЗЮЛЯ.

У Чачэрску адбыліся заключныя імпрэзы IV Рэспубліканскага фестывалю народнага танца "Беларуская полька". Чацвёрты раз у гэтым старажытным горадзе сабраліся таленавітыя танцоры ўсіх узростаў і з усіх куткоў Беларусі. Не абмінулі свята і госці з Украіны, Расіі, Латвіі. Амаль год фестываль крочыў па беларускай зямлі, адбываліся канцэрты, конкурсы, сяброўскія сустрэчы паміж фальклорнымі калектывамі.

Адметнай рысай фестывалю было шырокае далучэнне да народнай спадчыны дзяцей і падлеткаў, а таксама правядзенне конкурсу танцавальных пар — выканаўцаў народных побытавых танцаў. Чатыры дні Чачэршчына жыла святам. У самыя далёкія куткі раёна прыехалі ўдзельнікі фестывалю, каб не толькі паказаць сваё майстэрства, але і зрабіць першы крок у аднаўленні побытавых танцаў сярод насельніцтва.

НА ЗДЫМКАХ: у віхры танца; Віця РАДЗЮК — удзельнік фальклорнага калектыву "Берагіня" з вёскі Мётча Барысаўскага раёна; танцы розных рэгіёнаў; юным талентам — дарогу; гасцінна сустракалі ўдзельнікаў фестывалю ў вёсцы Залессе Чачэрскага раёна; на адной з канцэртных пляцовак фестывалю.











## ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

Яраслаў ПАРХУТА

### ЧАМУ ЖАБКІ ПЛАВАК НЕ МАЮЦЬ

Убачылі неяк жабкі, што дзеці ў плаўках купаюцца, тэрмінова склікалі сход і пастанавілі:

1. Быць на пляжы галышом забараняецца.

2. Купацца дазволіць толькі ў плаўках.

Рашыць-то рашылі, а дзе ўзяць тыя плаўкі-купальнікі? У іхняй завадзі ні магазіна, ні швачкі.

Думалі жабкі, думалі, як выйсці з такога становішча, і прынялі яшчэ адно рашэнне:

— Самім абновы пашыць!

Ды лёгка сказаць: самім! А з чаго? А чым?

Сталі жабак суседзі выручаць. Прынеслі хто што меў. Павучок прынёс нітак маток. Вадамерка зялёная — сувой палатна бялёнага. Конікі з нізінкі — швейную машынку. І Рак рашыў падзяліцца — прынёс нажніцы.

Жабкі стараюцца. Которая мерку здымае, которая палатно кроіць, которая шые... Адным словам, хоць і марудна, але рухалася справа. Тут пачалі ўмешвацца памагатыя:

— Хіба так здымаюць мерку? — папракнула Вадамерка.

— Міляя, крояць не так! — сказаў засмучоны Рак.

— А ці гэтак машынай строчаць? — Конік ажно рагоча...

Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, калі б не апусціўся паблізу Бусел. Ён адразу разабраўся, у чым тут справа, прагнаў памагатых, а жабкам сказаў:

— Калі самі ні спароць, ні сшыць — няма чаго іншых смяшыць!

Жабкі спапохаліся, далі нырца і да вечара не вылазілі на бераг. Толькі апраўдваліся:

— Ква-ква-ліфікацыя малая!..

Так яны апраўдваюцца і па сённяшні дзень.

А без плавак як купаліся, так і купаюцца.

### КРОПЕЛЬКА

Аднаго разу, на зыходзе зімы, сонца прыгрэла мацней звычайнага і на кончыку ледзяша, які звісаў са страхі, з'явілася Кропелька.

Зірнула Кропелька туды, зірнула сюды і абрадавалася. Ад зімовага сну абуджаўся гародчык, на прызбе сакаталі куры, у небе над хатай звінеў жаваранак. Толькі за вёскай яшчэ спала рачулка, скаваная тоўстым лёдам.

І рашыла Кропелька дапамагчы рачулцы. Доўга не думала, як гэта зрабіць, — узяла і саскочыла на дол.

На доле ў тым месцы яшчэ гурба ляжала. Кропелька правалілася ў снег, спапохалася і закрычала:

— Аёй! Ратуйце!

Яе ўчула Другая Кропелька, на дапамогу кінулася, але і сама правалілася ў снег і таксама закрычала:

— Гіну!..

Але тут саскочыла з ледзяша Трэцяя Кропелька і стала суцяшаць:

— Калі будзем трымацца разам, то не загінем, дабяжым да рачулкі. І кропелькі адна за адной, ланцужком, пабеглі з-пад снегу. Неўзабаве і на сцежку выбіліся.

— Куды гэта вы! Пачакайце! — гукнулі з падстрэшша новыя Кропелькі. — І мы з вамі!

Як бачыш, дагналі яны сяброўак і пастроіліся. Атрымалася ручайка.

Ручайка пазвоньвае на сонцы, бяжыць, стараецца, вуркоча, а прыбегла да рачулкі — жахнулася: яна ледзь жывая! Хоча скінуць ледзяныя аковы, а не можа. І тады Кропелька, што першай саскочыла з ледзяша, адшукала ў лёдзе трэшчынку і — туды. За ёй у рачулку ўліліся Другая і Трэцяя Кропелькі. Неўзабаве і ўся ручайка была там.

Налеглі дружна спадыспаду на лёд, і ён не вытрымаў — затрашчаў, на кавалкі раскалоўся. Рачулка ўзрадавалася і пабегла туды, дзе віднелася вялікая рака, яшчэ скаваная тоўстым лёдам.

Жаваранак пазіраў на ўсё гэта з-пад сонца і вызвоньваў:

— Вось што значыць у дружбе жыць!

— Вось што значыць разам адну справу рабіць!

— І маленькая Кропелька вялікую сілу мае, калі заадно з іншымі!..

«Голас Радзімы»

Намеснік галоўнага рэдактара
Галіна УЛІЦЁНАК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Таццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнікі Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.
Спецыяльны карэспандэнт Нэлі ПРЫВАЛАВА.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 677 экз.
Зак. 1806.
Падпісана да друку 24.7.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і адрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).